**Адказы Леаніда Маракова**
**на пытанні часопіса “Крыніца”**

*Якую падзею Вы лічыце галоўнай у ХХ стагоддзі на Беларусі?*

Напрыканцы дваццатага стагоддзя абставіны склаліся так, што, бадай, галоўнай падзеяй гэтага веку, яго галоўным плюсам для беларусаў лічу тое, што не зрабілася галоўнае адмоўнае. Тое, што Беларусь жыве, як самастойная дзяржава. Хай напалову таталітарная, даведзеная эканамічна амаль да краху, але захаваўшая назву БЕЛАРУСЬ. І значыць, як гаварылі нацдэмы яшчэ ў дваццатыя, ёсць шанс для працягу барацьбы. Барацьбы за поўную незалежнасць, за родную мову, за нашу самабытную культуру, за аднаўленне інтэлектуальнага генафонду нацыі, якая страціла ў гэтым стагоддзі лепшых сваіх сыноў.

У 1920—40-я г. была вынішчана інтэлектуальная моц нацыі, якая была назапашана многімі папярэднімі пакаленнямі. За мінулыя пасля генацыду 1950—60 г. (два пакаленні) яна безумоўна (і гэта мы бачым на канкрэтных прыкладах) да канца не аднавілася. Інтэлектуальны патэнцыял нацыі, як мне здаецца, пакажа сябе ў наступным стагоддзі…

*Якую падзею Вы лічыце галоўнай у адыходзячым тысячагоддзі?*

Калі маецца на ўвазе ўвесь сусвет, то, здаецца, галоўныя падзеі для чалавецтва пачнуцца якраз у бліжэйшыя некалькі дзесяцігоддзяў. Ніякія падзеі мінулага тысячагоддзя ці то сусветныя войны або адкрыццё “тайны” атаму, не змогуць зраўнавацца з тым, што чакае нас нават у бліжэйшыя пяцьдзесят-сто гадоў. Магутнасць і хуткасць працы камп’ютэраў будзе дастатковай для стварэння штучнага інтэлекту, прасцейшых людзей-робатаў, пасля стварэння якіх перастане існаваць, да прыкладу, “самый эксплуатируемый» (кажучы мовай класіка марксізму і заснавальніка канцэнтрацыйных лагераў і “інстытута” заложнікаў) рабочы клас. У дыктатараў, якія яшчэ засталіся на зямлі, знікне іхняя адзіная дэмагагічная “крыша” абаронцаў простага народа, рабочага класа, які эксплуатуюць капіталісты рабочага класа. Сусвет без дыктатараў — гэта сусвет без войнаў, з-за якіх у гэтым тысячагоддзі і не адбыўся “поўны” прарыў да зорак, галактыкаў і, магчыма, да іншых цывілізацый. Сусвет без дыктатараў і таталітарных рэжымаў — гэта сусвет дабра, прагрэсу, шчасця…

Калі ж гаварыць пра навукова-тэхнічныя адкрыцці, то галоўнымі, як мне здаецца, тут з'яўляецца авалоданне энергіяй электрычнасці і атамнага ядра.

*Якая падзея, Вам хацелася б, каб адбылася на Беларусі ў наступным стагоддзі?*

Хацелася б, каб адбылося “прасвятленне” нацыі, адыход яе ад лініі вечнай “памяркоўнасці”, тактыкі “каб толькі не было вайны”, а часам і “мая хата з краю”. Каб маладое пакаленне, якое вырастае, скажам так, у іншых умовах, не баялася спальваць масты паміж сабой і адыходам назад, у рабства. Толькі наперад, у будучыню, у цывілізацыю, нават калі не ўсе адолеюць шлях…

Мы масты не палілі і вось даадступаліся… Далей няма куды…

*Снежань, 1999*

**Адказы Леаніда Маракова**
**на пытанні часопіса "Крыніца"**

*Якую падзею Вы лічыце галоўнай у XX стагоддзі на Беларусі?*

К концу двадцатого столетия обстоятельства сложились так, что, пожалуй, главным событием этого века, его первостепенным плюсом для белорусов, считаю то, что не совершилось главное отрицательное. То, что Беларусь жива, как самостоятельное государство. Пусть наполовину тоталитарное, доведенное экономически почти до краха, но сохранившее название — БЕЛАРУСЬ. И значит, как говорили нацдемы еще в двадцатые, есть шанс для продолжения борьбы. Борьбы за полную независимость, за родной язык, за нашу самобытную культуру, за восстановление интеллектуального генофонда нации, потерявшей в этом столетии лучших своих сынов.

В 1920-1940-е была уничтожена накопленная многими предыдущими поколениями белорусов интеллектуальная мощь нации. За прошедшие после геноцида 50-60 лет (два поколения) она, безусловно (и это мы видим по конкретным примерам), до конца не восстановилась. Интеллектуальный потенциал нации, как мне кажется, покажет себя в следующим столетии.

*Якую падзею Вы лічыце галоўнай у адыходзячым тысячагоддзі?*

Есть ли имеется в виду весь мир, то, думается, главные события для человечества начнутся как раз в ближайшие несколько десятилетий. Никакие события уходящего тысячелетия будь то мировые войны или открытие "тайны" атома, не смогут сравниться с тем, что ожидает нас даже в ближайшие пятьдесят-сто лет. Мощность и скорость работы компьютеров будет достаточной для создания искусственного интеллекта, простейших людей-роботов, после создания которых перестанет существовать к примеру "самый эксплуатируемый" (говоря языком классика марксизма и основателя концентрационных лагерей и "института" заложников) рабочий класс. У оставшихся на земле диктаторов исчезнет их единственная демагогическая "крыша" — защитников простого народа, эксплуатируемого капиталистами рабочего класса. Мир без диктаторов — это мир без войн, из-за которых в этом тысячелетии и не состоялся "полный" прорыв к звездам, галактикам и, возможно, к другим цивилизациям. Мир без диктаторов и тоталитарных режимов — это мир добра, прогресса, счастья.

Если же говорить о событиях, имея в виду научно-технические открытия, то главными, как мне кажется, здесь является “овладение” энергией электричества и атомного ядра.

*Якая падзея, Вам хацелася б, каб адбылася на Беларусі ў наступным стагоддзі?*

Хочется чтобы произошло “просветление” нации, отход ее от линии вечной “памяркоўнасці”, тактики «каб толькі не было вайны», а временами и “мая хата з краю”. Чтобы вырастающие скажем так — в других, чем мы условиях молодое поколение, не боялось сжигать мосты между собой и отходом назад, в рабство. Только вперед, в будущее, в цивилизацию, даже если не все одолеют путь.

Мы мосты не сжигали и вот доотходились. Дальше некуда...